# Голас Радзімы

№ 41 (1975)
9 кастрычніка 1986 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






Боль, смутак, жаль, абурэнне адчувае кожны, хто ступае на свяшчэнную, абпаленую агнём мінулай вайны хатынскую зямлю. Асабліва горка бывае людзям, якія самі зведалі фашысцкую няволю, сталі ахвярамі гітлераўскіх акупантаў. Не хавала слёз і Настасся ІВАНОВА, наша зямлячка з Бельгіі, якая ў верасні была ў Мінску на курсах удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Пасля заняткаў, як і іншыя курсанты, яна знаёмілася з горадам і яго наваколлем. (Карэспандэнцыя аб курсах «Перададим свои знания другим» змешчана на 5-й стар.).

НА СЕСІІ МАГАТЭ

## ВЫСТУПЛЕННЕ ПРАДСТАЎНІКА БССР

У венскім палацы Хофбург праходзіць чарговая XXX сесія Генеральнай канферэнцыі Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ). Яе ўдзельнікі — каля ста дэлегацый з многіх краін свету — абмяркоўваюць шырокі круг пытанняў, звязаных з умацаваннем міжнароднага супрацоўніцтва ў справе далейшага развіцця ядзернай энергетыкі.

На пленарным пасяджэнні сесіі выступіў кіраўнік дэлегацыі Беларускай ССР, член-карэспандэнт АН БССР Л. Калыхан. Характэрная рыса многіх выступленняў на спецыяльнай і на *праходзячай* цяпер чарговай сесіях Генеральнай канферэнцыі МАГАТЭ, сказаў ён,—імкненне да сістэмнага падыходу разгляду ўсёй ядзернай праблемы ў цэлым. Ядзерная і радыяцыйная бяспека, дагавор аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, фізічная ахова ядзерных матэрыялаў, прадухіленне нападу на ядзерныя ўстаноўкі і тэрарыстычных дзеянняў—усё гэта важныя бакі агульнай праблемы бяспекі, якая ўзнікла перад чалавецтвам адначасова з асваеннем ім грознай сілы атама. Аднак сённяшняя рэчаіснасць такая, што забеспячэнне надзейнай, сапраўднай бяспекі ўсіх дзяржаў і народаў стала ўжо немагчымым без поўнай ліквідацыі ядзернай зброі, без спынення яе выпрабаванняў і выключэння матэрыяльнай падрыхтоўкі атамнай вайны.

Таму Савецкі Саюз прапанаваў, дзейнічаючы паэтапна і паслядоўна, ажыццявіць і завяршыць працэс вызвалення Зямлі ад ядзернай зброі на працягу бліжэйшых 15 гадоў, да канца цяперашняга стагоддзя.

Расказваючы аб рабоце, праводзімай у Беларусі ў галіне прымянення энергіі атама ў мірных мэтах, Л. Калыхан адзначыў, што ядзерная энергія і розныя выпраменьванні з высокай эфектыўнасцю выкарыстоўваюцца ў рэспубліцы: у сельскай гаспадарцы, прамысловасці, у навуковых і медыцынскіх установах. Гэты вопыт і вынікі некаторых даследаванняў, падкрэсліў кіраўнік дэлегацыі БССР, могуць быць выкарыстаны ў рабоце агенцтва, і мы гатовы разгледзець пытанні супрацоўніцтва.

У ШТАБ-КВАТЭРЫ ААН

## ВЫСТАЎКА З БЕЛАРУСІ

На 41-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку праводзяцца мерапрыемствы, прысвечаныя Міжнароднаму году міру, у якіх актыўны ўдзел прымае Беларуская ССР. У штаб-кватэры ААН адкрылася выстаўка плакатаў. На ёй дэманструюцца работы беларускіх мастакоў В. Цеслера, С. Войчанкі і А. Шалюты, якія атрымалі спецыяльны прыз генеральнага сакратара ААН Х. Перэса дэ Куэльяра за лепшы плакат, прысвечаны Міжнароднаму году міру на выстаўцы плаката ў Варшаве.

На выстаўцы кніг, прысвечаных гісторыі ААН і яе дзейнасці, шырока прадстаўлены выданні Беларускай ССР.

У Нью-Йорку прайшоў таксама міжнародны дзіцячы кірмаш, у якім прымалі ўдзел дзеці з розных краін свету. Вялікую цікавасць выклікала выстаўка дзіцячых малюнкаў і іншых работ мастацкай студыі Беларускага рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў.

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ ПРАФСАЮЗАЎ З ЛАОСА

Клопаты аб паляпшэнні ўмоў працы і арганізацыі цікавага адпачынку людзей у вас неаддзельныя. У гэтым мы яшчэ раз пераканаліся, пабываўшы на Мінскай цеплаэлектрацэнтралі, заявіў старшыня Федэрацыі лаоскіх прафсаюзаў Тхітсой Самбатуонг, кіраўнік дэлегацыі Лаоса, якая пабывала ў нашай рэспубліцы. Мы з цікавасцю пазнаёміліся з сістэмай павышэння прафесіянальнага майстэрства энергетыкаў, работай дашкольнага камбіната. У нас такія ўстановы яшчэ толькі ствараюцца, і ваш вопыт будзе вельмі павучальным.

Члены дэлегацыі былі прыняты ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР. Адбылася сустрэча ў Белсаўпрофе, дзе яго старшыня У. Ганчарык расказаў гасцям аб дзейнасці прафсаюзаў рэспублікі.

Прадстаўнікі Федэрацыі лаоскіх прафсаюзаў зрабілі экскурсію па гораду, наведалі Дом-музей І з'езда РСДРП.

У праграме знаходжання дэлегацыі была паездка ў калгас «Новы быт» Мінскага раёна, наведанне музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, ВДНГ рэспублікі, мемарыяльнага комплексу «Хатынь» і Кургана Славы.

## ...І З ЯПОНІІ

У Беларусі пабывала таксама прафсаюзная дэлегацыя горада-пабраціма Мінска Сэндая прэфектуры Міяга Японіі. Яе ўзначальваў намеснік генеральнага сакратара прэфектуральнага савета прафсаюзаў Міягі Сата. У саставе дэлегацыі былі старшыня рэгіянальнага савета прафсаюза работнікаў лясной гаспадаркі Ташыра і старшыня рэгіянальнага савета прафсаюза работнікаў металургічнай прамысловасці Хасакава.

Члены дэлегацыі былі прыняты ў абласным савеце прафсаюзаў. Яны азнаёміліся з дзейнасцю прафсаюзаў вобласці. Асабліва падкрэслівалася роля прафсаюзаў у барацьбе за захаванне міру. Адбыўся таксама абмен думкамі аб далейшым супрацоўніцтве прафсаюзаў Міншчыны і прэфектуры Міяга.

Члены дэлегацыі японскіх прафсаюзаў мелі гутарку і ў Мінскім гарвыканкоме. Яны наведалі таксама Мінскі трактарны завод, дзе азнаёміліся з вытворчасцю і арганізацыяй працы, пабывалі на аб'ектах сацкультбыту прадпрыемства. У Палацы культуры МТЗ адбылася сустрэча з прафсаюзным актывам завода, у час якой члены дэлегацыі прынялі ўдзел у дыскусіі «Роля прафсаюзаў СССР і Японіі ў руху за мір і раззбраенне».

За час знаходжання ў Мінскай вобласці госці з Японіі наведалі Нясвіжскі раён, дзе пабывалі ў Снoўскай сярэдняй школе, у вучэбна-вытворчым камбінаце азнаёміліся з пастаноўкай навучальна-выхаваўчага працэсу, працоўнага выхавання вучняў. Яны наведалі таксама калгас «17 верасня», пазнаёміліся з працай і жыццём калгаснікаў, дзейнасцю прафсаюзнай арганізацыі гаспадаркі.

У праграме знаходжання японскай прафсаюзнай дэлегацыі было таксама наведанне Алімпійскага спарткомплексу Раўбічы, Батанічнага сада АН БССР.

ВЕЧАР ДРУЖБЫ

## ПРЫСВЕЧАНА ГАДАВІНЕ КНР

Вечар-канцэрт, прысвечаны 37-й гадавіне абвяшчэння Кітайскай Народнай Рэспублікі, адбыўся ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

На вечары прысутнічалі прадстаўнікі грамадскасці Мінска, а таксама кітайскія спецыялісты, якія праходзяць стажыроўку ў Белдзяржуніверсітэце імя У. І. Леніна і Беларускім політэхнічным інстытуце.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

## У ГЕНКОНСУЛЬСТВЕ ГДР

У сувязі з 37-й гадавінай утварэння Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі генеральнае консульства ГДР у Мінску правяло прэс-канферэнцыю для работнікаў друку, радыё і тэлебачання.

Перад прысутнымі выступіў генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда, які расказаў аб поспехах працоўных брацкай краіны ў сацыялістычным будаўніцтве, выкананні рашэнняў XI з'езда САПГ. Ён адзначыў, што народ ГДР аднадушна адабрае і падтрымлівае знешнепалітычныя мірныя ініцыятывы СССР, яго рашэнне прадоўжыць аднабаковы маратoрый на ядзерныя выпрабаванні.

МАГІЛЁЎ — ГАБРАВА

## ЗА ВОПЫТАМ

Некалькі дзён на Магілёўшчыне знаходзілася група кіруючых работнікаў дзяржаўнага і народнага кантролю Габраўскай акругі Народнай Рэспублікі Балгарыі. У яе саставе былі намеснік старшыні акруговага камітэта дзяржаўнага і народнага кантролю Пенча Дончаў і старшыня абшчыннага камітэта Стойна Стойнаў.

Дэлегацыю прыняў другі сакратар абкома КПБ А. Баразна. Балгарскія госці наведалі абласны і Кастрычніцкі раённы камітэты народнага кантролю горада Магілёва, азнаёміліся з дзейнасцю Магілёўскай доследна-эксперыментальнай абутковай фабрыкі, завода «Строммашына», аб'яднанняў шаўковых тканін і «Хімвалакно», пабывалі ў радзе гаспадарак вобласці.

НОВАБУДОЎЛІ



Блізіцца да завяршэння будаўніцтва Гомельскай цеплаэлектрацэнтралі-2. У снежні намечаны пуск першага энергаблока магутнасцю 180 мегават. Цяпер спецыялісты заканчваюць мантаж турбагенератара — сэрца новай станцыі.
НА ЗДЫМКУ: ідзе мантаж турбіны.

НЕЗВЫЧАЙНАЯ ПРАДУКЦЫЯ

## ПАЛЕСКІ ШАЎКАПРАД

Выкармку дубовага шаўкапрада пачалі рабочыя Тамашоўскага лясніцтва на Брэстчыне. На сядзібе непадалёку ад лесасек пабудаваны інсектарый-цяпліца. Тэхналогія выкармкі вусеняў дубовага шаўкапрада простая, не патрабуе капітальных затрат.

У лясніцтве разлічваюць атрымаць не менш 200 кілаграмаў коканаў, на кожным з якіх звычайна наматана да сямісот метраў найтанчэйшай шаўковай ніці. Пасля спецыяльнай апрацоўкі і сушкі іх здадуць на прадпрыемствы, дзе атрымаюць цудоўны натуральны шоўк.

ПАЛІВА ДЛЯ АЎТАМАБІЛЯЎ

## «ГАЗ» — НА ГАЗЕ

Станцыя па запраўцы аўтамабіляў прыродным газам уступіла ў строй у Магілёве. Яе праектная магутнасць— пяцьсот запраўак у суткі. На новае, больш таннае паліва ў горадзе пераводзяцца грузавікі дзвюх марак — «Зіл-130» і «Газ-52-53». Адной запраўкі дастаткова на 160—180 кіламетраў прабегу.

Пераход са звычайнага гаручага на газ толькі ў маштабах адной запраўчай станцыі з'эканоміць народнай гаспадарцы звыш паўмільёна рублёў у год. Большы тэрмін будуць служыць рухавікі аўтамашын, зменшыцца расход змазачных маслаў. Ды і чысцей стане гарадское паветра, таму што выкід адпрацаваных газаў скарачаецца ў некалькі разоў.

Цяпер у Магілёве будуецца другая станцыя такой жа магутнасці.

ПАСЛЯ РЭКАНСТРУКЦЫІ

## ШКЛО Ў АБАЛОНЦЫ

Утрая павялічаны выпуск шклопалімерных труб на Гомельскім шклозаводзе, дзе завершана рэканструкцыя. Першую прадукцыю дала новая лінія, распрацаваная і выраблeная спецыялістамі канструктарскага бюро з доследнай вытворчасцю Інстытута механікі металапалімерных сістэм Акадэміі навук БССР. Цяпер штогод спажыўцы будуць атрымліваць 150 кіламетраў ахаваных поліэтыленавай абалонкай шклоправодаў дыяметрам 50 міліметраў.

Гадавы аб'ём выпуску прадукцыі на рэканструяваным участку дасць эканамічны эфект не менш чым паўтара мільёна рублёў. Цеснае супрацоўніцтва заводскіх канструктараў і вучоных інстытута працягваецца. Цяпер яны імкнуцца расшырыць асартымент шкляных артэрый і фасонных частак да іх. У бліжэйшы час будзе асвоена тэхналогія нанясення палімерных абалонак на шкляныя трубы дыяметрам 80 і 100 міліметраў, што значна расшырыць сферу іх прымянення.

СІМПОЗІУМ

## МАТЭМАТЫКІ КРАІНЫ Ў ГОМЕЛІ

У знак прызнання алгебраічнай школы, створанай трэць стагоддзя назад вядомым вучоным, акадэмікам АН БССР С. Чуніхіным, у Гомельскім дзяржаўным універсітэце прайшоў 10-ты ўсесаюзны сімпозіум па тэорыі груп. У яго рабоце прынялі ўдзел каля двухсот вучоных амаль з 60-ці гарадоў краіны. Яны абмяняліся метадамі сучасных даследаванняў, абмяркавалі магчымасці прымянення матэматычнай навукі ў прыродазнаўстве, іншых тэарэтычных і прыкладных галінах.

ТЭЛЕФАНІЗАЦЫЯ

## АТС МАГІСТРАЛІ

На Гродзенскім чыгуначным вузле ўведзена ў эксплуатацыю новая аўтаматычная тэлефонная станцыя на 1 500 нумароў. Яна дазволіла ўдвая павялічыць колькасць абанентаў, зрабіць больш надзейнай і аператыўнай сувязь з лінейнымі станцыямі аддзялення, прадпрыемствамі вузла, з апаратам кіравання дарогі.

Такая ж АТС, змантыраваная і адрэгуляваная рукамі вопытных спецыялістаў, уведзена ў эксплуатацыю ў Баранавічах-Палескіх. Сёлета аўтаматычная тэлефонная станцыя на паўтары тысячы нумароў уступіць у строй дзеючых на Полацкім вузле, а ў Мінску сувязісты-чыгуначнікі заканчваюць апошнія работы па мантажу і закладцы абсталявання на новай буйной АТС з аўтаматычным вузлом камутацый. Для ўсіх новых АТС будаўнікі ўзвялі спецыяльныя памяшканні.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



Ажыўлена ў гэтыя дні на палях калгаса імя А. Міцкевіча Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Механізатары, завяршыўшы сяўбу азімых у аптымальныя тэрміны, займаюцца ворывам зябліва, нарыхтоўкай кармоў і ўборкай бульбы, пад якою было занята 160 гектараў. З кожнага з іх атрымліваюць да двухсот цэнтнераў клубняў.
НА ЗДЫМКУ: камбайнавая ўборка бульбы ў калгасе.







Сямігадовы Вова Грэсь высока над галавой падняў сімвалічны ключ ад першай вуліцы пасёлка, дзе ён будзе цяпер жыць, і вакол раздаліся апладысменты. Былі задаволены сваёй працай будаўнікі-прафесіяналы і студэнты Мінскага радыётэхнічнага інстытута, якія ўзводзілі дамы прысядзібнага тыпу з усімі камунальнымі зручнасцямі. Тут побач з пасёлкам Уза — сядзібай саўгаса «Праўда» Буда-Кашалёўскага раёна — нараджаецца пасёлак-спадарожнік.

Новаслабодская — так назвалі работнікі саўгаса «Слабодскі», якія перасяліліся сюды з Брагіншчыны ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС, новую вуліцу пасёлка.

НА ЗДЫМКАХ: будуецца новы пасёлак; сімвалічны ключ ад першай вуліцы — у руках Вовы ГРЭСЯ; у дом № 1 па вуліцы Новаслабодскай усяляецца сям'я механізатара Аляксандра ГРЫЦЭНКІ.

ШТО АДБЫВАЕЦЦА Ў САВЕЦКАЙ ВЁСЦЫ

# ПАДРАД БЯРЭ СЯМ'Я

У беларускім калгасе імя Сільніцкага амаль уся грамадская жывёла (адкорм і дарошчванне) замацавана за асобнымі сем'ямі калгаснікаў на прынцыпах падраду. З кожнай сям'ёй праўленне калгаса заключае дагавор, дзе ўказана колькасць замацаванай жывёлы і ўмовы аплаты працы. Людзі атрымліваюць аванс кожны месяц, але канчатковы разлік робіцца толькі пасля таго, як жывёла здадзена на мясакамбінат. Чым лепшая прадукцыя і чым яе больш, тым вышэй заработак сям'і.

Падобных прыкладаў цяпер даволі многа. Што ж адбываецца ў нас у краіне, можа спытаць іншы чытач. Праз 55 год пасля пачатку масавай калектывізацыі, калі нізкарэнтабельныя сямейныя гаспадаркі пачалі аб'ядноўвацца ў буйныя сельскагаспадарчыя арцелі, — адраджэнне сямейных ферм па старому, «дакалгаснаму» ўзору? Ці не значыць гэта, што калгасна-саўгасны спосаб вытворчасці вычарпаў свае рэсурсы і ўстарэў? Прасцей кажучы: ці не рух гэта назад?

Такія меркаванні ўжо выказваліся ў буржуазным друку Захаду. Дададзім: падобныя апаскі трывожаць і нейкую частку савецкай грамадскасці, якая разважае кансерватыўна. Скажам пэўна і без якіх-небудзь недагаворак: такія меркаванні і апаскі беспадстаўныя. Назад шляху няма, ды і ніхто ў нас такіх шляхоў не шукае. Няма патрэбы гаварыць, што сацыялістычныя метады гаспадарання за мінулую палавіну стагоддзя даказалі сваю жыццяздольнасць і ў любым выпадку калгасна-саўгасная структура вытворчасці застаецца цвёрдай. Проста сёння размова ідзе аб больш гібкім і нешаблонным прыстасаванні гэтай структуры да канкрэтных вытворчых умоў, гэта значыць аб удасканаленні існуючай сістэмы і аб поўным выкарыстанні ўсіх спадарожных рэзерваў і рэсурсаў, нацэленых на расшырэнне вытворчасці і павышэнне якасці прадукцыі.

Каб усё было ясна, пачнём, як гаворыцца, з азоў. Вядома, што за апошні час, асабліва пасля прыняцця Харчовай праграмы СССР на 80-я гады (май 1982 года), на вёсцы атрымаў шырокае распаўсюджанне калектыўны падрад. Сёння ён ужо стаў вядучай формай арганізацыі працы і яе аплаты — перш за ўсё ў раслінаводстве.

Пры падрадзе за невялікай брыгадай рабочых саўгаса ці членаў калгаса (10—20, самае большае—30 чалавек) замацоўваюцца сродкі вытворчасці (зямля ў межах севазвароту і тэхніка ці пагалоўе статку) на дагаворных пачатках. Заўважым, што такое замацаванне нічога не мяняе ў адносінах уласнасці: зямля, як і было раней, застаецца дзяржаўнай, а тэхніка і жывёла, перададзеныя брыгадам, лічацца на балансе калгаса ці саўгаса. Па ўмовах дагавора, які заключаецца брыгадай з дырэкцыяй саўгаса ці праўленнем калгаса, яна абавязана атрымаць пэўную колькасць сельскагаспадарчай прадукцыі таго ці іншага віду. Прычым аплата працы падраднага калектыву непасрэдна залежыць ад аб'ёмаў здадзенай ім прадукцыі і, вядома ж, ад яе якасці.

Ці не «распадзенне» гэта буйнога калгаса (саўгаса) на «міні-калгасы»? Не. Планаванне, эканамічны аналіз і бухгалтарскі ўлік, матэрыяльна-тэхнічнае і фінансавае забеспячэнне, рэалізацыя прадукцыі і ўзаемаадносіны з іншымі гаспадаркамі і арганізацыямі (у тым ліку з дзяржаўным банкам) — усё гэта знаходзіцца ў распараджэнні калгаса ці саўгаса. У распараджэнні гаспадарак застаюцца і ўсе пытанні рэалізацыі сацыяльнай палітыкі, расшырэння вытворчасці, будаўніцтва і да т. п. За падраднай брыгадай — толькі вытворчасць і нічога больш.

Адна з разнавіднасцей калектыўнага падраду ў спецыфічных умовах — сямейны падрад. У гарах, у малаконтурных угоддзях лясных раёнаў, на ўскраінах масіваў буйнамаштабнага землекарыстання вялікай брыгадзе (30—20, нават 10 чалавек) проста не развярнуцца. Пры такой сітуацыі падрад бярэ сям'я, выступаючы пры гэтым (калі гаварыць аб юрыдычным баку справы) у якасці нізавой вытворчай ячэйкі калгаса ці саўгаса, якая дзейнічае на пачатках гаспадарчага разліку і самаакупнасці.

Зразумела, што сфера прымянення сямейнага падраду не бязмежная. Але ўсё-такі магчымасцей для яе расшырэння дастаткова. Напрыклад, толькі ў Расійскай Федэрацыі налічваецца больш за 9 тысяч малочных ферм з пагалоўем да 100 кароў. Як правіла, яны размешчаны ў маленькіх вёсачках, аддаленых ад цэнтральных сядзіб калгасаў і саўгасаў. Можна, вядома, «закрыць» гэтыя фермы і перавесці жывёлу на цэнтральныя сядзібы. Так, уласна кажучы, і рабілі ў 60—70-х гадах. Але менавіта гэта практыка прывяла да фактычнага выпадзення з землекарыстання аддаленых пашаў і сенакосаў, да знікнення маленькіх вёсак (5—10—15 дамоў), жыхары якіх насуперак разлікам кіраўнікоў гаспадарак і сацыёлагаў перасяляліся не на цэнтральныя сядзібы сваіх калгасаў і саўгасаў, а ў гарады, прытрымліваючыся жыццёвага правіла: калі ўжо ехаць, дык ехаць туды, дзе напэўна лепш. Цяпер у гэтых вёсках можна аднавіць і нават расшырыць вытворчасць з дапамогай сямейнага падраду. Гэта, вядома, зусім не значыць, што ў буйных населеных пунктах не трэба будаваць жывёлагадоўчыя комплексы індустрыяльнага тыпу. Словам, канкрэтныя ўмовы дыктуюць форму арганізацыі працы і маштаб вытворчасці.

**Леў ВАСКРАСЕНСКІ,**
**эканамічны аглядальнік АДН.**

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# ЗАБЫЦЬ НЕЛЬГА І ДАРАВАЦЬ НЕЛЬГА

Неяк на сустрэчы з адной з амерыканскіх дэлегацый, якая знаходзілася ў Беларусі, я задаў пытанне:

— Якое самае цяжкае ўражанне засталося ў вас ад другой сусветнай вайны?

Пажылы амерыканец адказаў, што караблі, якія дастаўлялі каву з Бразіліі, патапілі немцы, і ён не піў яе цэлыя два тыдні. Памаўчаў крыху і дадаў:

— Гэта было жахліва.

Вось так. «Трагедыя», якую перажыў наш паважаны заакіянскі госць, выклікала ў мяне сумную і іранічную ўсмешку. Мы ведаем і памятаем вайну іншай. Вось такою...

У акупіраваным фашыстамі Брэсце жонка афіцэра Чырвонай Арміі Паліна Грахольская сабрала дзяцей-сірот, чые бацькі загінулі ў першыя дні вайны. У горадзе знаходзіцца было небяспечна —тут ужо лютавалі гітлераўцы—і яна пабрыла з імі па вёсках, пакуль не знайшла, здавалася, надзейнага прыстанішча.

Бацькам Паліны Аляксандру Фёдаравічу і Вользе Данілаўне на Украіну знаёмыя даставілі ад яе дзве запіскі. Дачка тлумачыла, што не можа вярнуцца дамоў: нельга пакінуць дзяцей загінуўшых. Бацькі [illegible]алі пісьмо па пошце, але яно вярнулася са штэмпелем «Цурук» («Вярнуць адпраўшчыку»). Дзесяцігоддзі пасля гэтага Грахольскія не ведалі пра лёс дачкі.

Расказвае дакумент:

**«Акт жыхароў раённага цэнтра Дамачова Брэсцкай вобласці аб знішчэнні дзяцей Дамачоўскага дзіцячага дома нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў чэрвені 1941 г.—верасні 1942 г.**

**25 лістапада 1944 г.**

**Мы, ніжэйпадпісаныя жыхары раённага цэнтра і былыя работнікі дзіцячага дома... склалі сапраўдны акт аб здзеках і зверскім знішчэнні дзяцей Дамачоўскага дзіцячага дома.**

**23 верасня 1942 г. к 7 гадзінам вечара ў двор дзіцячага дома прыбыла 5-тонная аўтамашына з 6 узброенымі немцамі ў ваеннай форме. Старшы з групы немцаў Макс растлумачыў, што дзяцей павязуць у Брэст, і загадаў саджаць дзяцей у кузаў аўтамашыны. У машыну было пасаджана 55 дзяцей і выхавальніца Грахольская Пелагея. З пасаджаных у аўтамашыну дзяцей Шахметава Тося 9 год злезла з машыны і ўцякла, усе астатнія 54 дзіцяці і выхавальніца Грахольская былі вывезены ў напрамку станцыі Дубіца, 1,5 кіламетра ад вёскі Леплеўка. На пагранічнай дрэваземляной агнявой кропцы, размешчанай на адлегласці 800 метраў ад ракі Заходні Буг, аўтамашына з дзецьмі спынілася. Дзеці былі распрануты (пра што сведчыць наяўнасць дзіцячага адзення на аўтамашыне, што вярнулася ў Дамачова) і расстраляны».**

...Грузавік з галаварэзамі прыбыў у двор к сямі гадзінам вечара. Вось што пісала далей польская газета «Штандар люду»: «Старшы з групы немцаў Макс растлумачыў, што дзяцей павязуць у Брэст, і загадаў саджаць іх у кузаў. Выхавальніца Поля Грахольская спытала: «Можа, трэба дзяцей памыць, апрануць і накарміць?» Фашыст Макс адказаў: «Іх там пакормяць, памыюць і апрануць». Дзяцей пагрузілі ў кузаў. Паліна села з імі, сказаўшы на развітанне: «Што будзе з імі, то будзе і са мной». Падазраваючы нядобрае, яна заплакала. Заплакалі і дзеці...

Матрона Якімчук была адной са сведкаў трагедыі:

— Мы тады бульбу капалі з Яўгеніяй Панасюк. Бачым: машына едзе, а ў ёй дзетак поўна. Жанчыну бачылі—абдымала яна іх. І фашысты з аўтаматамі. Машына ціха ехала—напэўна, звяры месца выбіралі.—Вочы старой жанчыны наліліся слязьмі.— А потым машына заціхла, спынілася недалёка, за кустамі. Чуем: закрычаў нешта немец, а дзеці заплакалі. Потым страляць пачалі, доўга, тры разы так. Крычалі дзеці страшна. І голас чулі жаночы, надрыўны: «Звяры, што вы робіце? Гэта ж дзеці...» І заціхла ўсё.

Паехала машына скора. Прыйшла я да таго месца потым—і зайшлося сэрца. Яма неглыбокая. Спяшаліся душагубы. Не засыпалі, як трэба. Тырчалі з пяску дзіцячыя ногі, ручкі. І кроў на пяску.

Колькі начэй не спала потым. Птушка за акном крыкне, гром прагрыміць, а мне ўсё гэта галасамі дзяцей адгаецца. Да канца дзён сваіх буду помніць...

Таісія Шахметава, тая самая Тося, якой удалося выратавацца, працуе цяпер медыцынскай сястрой у горадзе Кобрыне. Яна ўжо была ў тым смяротным грузавіку, шафёр крануў з месца, як недзе ў баку пачулася страляніна. Фашысты замітусіліся. Тося непрыкметна выскачыла з кузава і пабегла ў дзіцячы дом, схавалася пад ложак.

Некалькі дзён дзяўчынка жыла ў пустых дамах гарадскога пасёлка, баючыся, што яе зловяць. Затым прабралася ў лес, харчавалася ягадамі. Калі сілы зусім пакідалі яе—ляжала пад дрэвамі. Нарэшце, выйшла к сялу Славацічы (цяпер яно на тэрыторыі Польскай Народнай Рэспублікі). Дзяўчынку ўбачыла сялянка Бранiслава Курылюк.

Простая, але вельмі сардэчная полька, акрамя сваіх траіх, выратавала ў той галодны ваенны час шасцёра савецкіх дзяцей, у тым ліку і Тосю.

— Думала, што не выхаджу яе,—успамінала Браніслава Курылюк.—Ледзь свае худзенькія ножкі перастаўляла. А на твары—ні крывіначкі... Слова сказаць не магла. Куды я магла адпусціць яе? Трое сваіх, пяцёра ўзяла. А там, дзе восем, дзевятай месца знойдзецца. Сказала, каб заставалася. Так разам і ратаваліся. Ой, крывавая справа—вайна. Праклятыя фашысты... Яе забыць нельга, і дараваць ім нельга.

**Віктар КАРМАЗІН.**

*У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»*

# СВЕТЛЫЯ ВОБРАЗЫ

Вольга Ананіч — актывістка Рускага таварыства «Прывет» у Стакгольме. Дзейнасць гэтай арганізацыі накіравана на пашырэнне і ўмацаванне духоўных і культурных сувязей суайчыннікаў з Радзімай.

Сама Вольга Георгіеўна ў Швецыі апынулася ў 20-я гады. Была яна тады зусім дзяўчынкай, але вобраз Айчыны, рускую мову захавала ў чысціні назаўсёды. Яна вельмі любіць падарожнічаць, пабывала ў многіх краінах свету, але найчасцей прыязджае ў Савецкі Саюз. Тут у яе многа сяброў, знаёмых, тут яна адчувае сябе спакойна.

Як і ўсе людзі, якім давялося перажыць вайну, яна ненавідзіць яе.

— Я мару, каб на зямлі ніколі не было войнаў,—сказала наша зямлячка.—Я ўжо дастаткова пацярпела ад мінулай: была паранена сама, страціла ўсіх сваіх блізкіх. Я вайны не хачу. Пераканана, што і беларусам, усяму савецкаму народу яна не патрэбна.

Я пабывала ў Хатыні. Гэта месца ва ўсіх людзей павінна выклікаць боль, абурэнне і гнеў супраць тых, хто дапусціў, учыніў такое злачынства. Я здзівілася, што ў Хатыні было многа немцаў. Падумалася, можа ёсць сярод іх тыя, чые бацькі ці дзяды ваявалі ў Расіі. Што яны павінны адчуваць тут?..

Вольга Ананіч у захапленні ад лесу. Калісьці яна нават марыла стаць леснікам, але жанчын на гэту работу не бралі. Затое кім яна толькі за сваё жыццё ні працавала.

— Там, на Захадзе, каб выжыць, не даводзіцца грэбаваць ніякай работай. І я служыла ў атэлі, была медсястрой у наркалагічнай клініцы. Зараз працую ў Чырвоным Крыжы.

А лес застаўся яе захапленнем. Яна праводзіць там вольны час. Збірае грыбы, ягады.

— І сёлета не змяніла сваіх звычак. Назбірала 20 літраў чарніц. І пірагі пякла са свежымі ягадамі.

Знаходзячыся ў Мінску, Вольга Георгіеўна папрасіла, каб яе і тут завезлі ў лес. Гэта была адна з самых прыемных экскурсій.

**Д. БАБАК.**

# ПЕРАДАДИМ СВОИ ЗНАНИЯ ДРУГИМ

В сентябре месяце в Минске работали курсы для руководителей и участников коллективов художественной самодеятельности землячеких организаций за рубежом, организованные Министерством культуры БССР и Белорусским обществом «Радзіма».

На этот раз приехали слушатели из Бельгии, Голландии и Италии, и при том не только соотечественники, а и иностранцы, соприкоснувшиеся хоть однажды с нашей культурой, музыкой, песней, кому близко искусство народов Советской страны.

Например, в ансамбле «Калинка» из города Роттердама, в котором вместе с русскими, белорусами, украинцами участвуют голландцы, есть уже такие, кто побывал на курсах в Минске, кого пленили белорусские танцы и песни, кто теперь знакомит с ними голландского зрителя.

А в хоровых коллективах, давно созданных при различных отделах Союза советских граждан в Бельгии, вместе с нашими земляками поют и их мужья-бельгийцы, всем сердцем полюбившие русскую песню.

На курсах, прежде чем приступить к репетициям, преподаватели рассказывали своим слушателям об истории возникновения той или иной песни, о композиторе, создавшем ее, вообще учили слушать и понимать музыку.

— Когда вернетесь в свои коллективы,—говорили они курсантам,—вы научите всему этому других. И там перед репетицией вы будете объяснять смысл слов, будете учить понимать, что хотел сказать композитор своим произведением. А для этого нужен не только слух, но и сердце. Песня только тогда дойдет до слушателя, когда вы вложите в нее душу, если вам будет близким то, о чем поете.

Участникам курсов полюбились песни, которые они выучили в Минске и увезли домой, потому что в них пелось о мире, который принес советский солдат весной сорок пятого года народам Западной Европы, о желании всех честных и разумных людей земли бороться и отстаивать мир сегодня, о русском поле как символе их большой и любимой Родины, о белорусской березке, нежно шелестящей зеленой листвой...

Как всегда, в последний день работы курсов их участники сдавали зачет, демонстрируя все, чему они научились за три недели. А постигли они многое: разучили новые белорусские танцы и песни, усовершенствовали дирижерское мастерство, технику аккомпанирования.

На последних занятиях и зачете присутствовали наши соотечественницы из Голландии Лидия Заяц и Анна Ткачева, гостившие в Минске по приглашению Белорусского общества «Радзіма».

— Мы понимаем,—сказали они на прощанье руководителям института культуры,—как много приходилось работать и курсантам, и преподавателям. Они очень много успели сделать. Поэтому мы поняли еще и то, что надо присылать сюда людей помоложе, у которых сил много, память хорошая, которые не только сами чему-то научатся, но и смогут потом свои знания передать другим.

Занятия в институте проходили до обеда, а во второй половине дня и вечером курсанты знакомились с лучшими белорусскими художественными коллективами, бывали в театрах, музеях, картинных галереях. Они имели возможность познакомиться с Минском и его окрестностями, встречались с интересными людьми.

Прощаясь, они благодарили за знания, полученные на курсах, за теплоту и сердечность, за гостеприимство.

— В своих коллективах,—говорили они,—мы расскажем об этом. А самое главное, передадим свои знания другим.

**Д. ЧЕРКАСОВА.**



Летом на улицах белорусских городов бывает много иностранных туристов. В нынешнем году нашу республику посетили гости из 60 стран мира. Им были предоставлены широкие возможности познакомиться с трудом и бытом советских людей, побывать на мемориальных комплексах «Брестская крепость-герой», «Хатынь», «Прорыв», «Курган Славы». Они посетили Беловежскую пущу, учреждения здравоохранения, народного образования, музеи и театры, Дворцы культуры.

НА СНИМКАХ: на очередную экскурсию по городу-герою Минску; болгарские туристы в государственном музее истории Великой Отечественной войны.

Фото В. ВИТЧЕНКО.

**АКТУАЛЬНЫЕ БЕСЕДЫ**

# СПРАВЕДЛИВОСТЬ СОЦИАЛИЗМА

Еще великий мыслитель Иммануил Кант (1724—1804) подметил: «Ничто не возмущает нас больше, чем несправедливость; все другие виды зла, которые приходится нам терпеть, ничто по сравнению с ней». И, добавим, ничто так не возвышает человека, как справедливость. Именно она служит истинным критерием его поведения в любой ситуации.

Однако куда сложнее определить меру справедливости не индивидуумов, а всего общества. Ведь в истории человеческой цивилизации эта мера выкристаллизовывалась под влиянием классовых столкновений — следовательно, трактовалась далеко не однозначно. Только социалистическая практика расставила здесь все по своим местам, и началась эта практика около семи десятилетий назад в России.

С первых же дней Советская власть не только провозгласила свободу и равенство, но и предприняла реальные шаги для осуществления справедливости на деле. Были, например, ликвидированы сословные, имущественные и национальные привилегии, установлен восьмичасовой рабочий день, введена система социального страхования рабочих и служащих.

Так было на заре становления нового общества. Сегодня принцип социальной справедливости стал тем фундаментом, на котором строятся отношения между людьми — отношения без эксплуатации и социальных антагонизмов, отношения коллективизма и товарищеского сотрудничества. Предоставлены широкие социальные гарантии: обеспеченность работой, доступность образования, медицинского обслуживания и жилья, забота о материнстве и детстве, о престарелых.

Вместе с тем не следует понимать так, что в СССР установилось абсолютное равенство во всем. Устранив эксплуатацию человека человеком, неравенство по отношению к средствам производства, то есть обеспечив социальную справедливость в главном, основном, новое общество, по словам В. И. Ленина, **«не в состоянии** сразу уничтожить и дальнейшую несправедливость, состоящую в распределении предметов потребления «по работе» (а не по потребностям)».

Идеал справедливого общественного устройства, к которому мы стремимся, — это идеал общества с полным социальным равенством всех его членов, где вместе со всесторонним развитием людей вырастут и производительные силы на основе постоянно развивающейся науки и техники, все источники общественного богатства польются полным потоком и осуществится заветный принцип: «От каждого — по способностям, каждому — по потребностям».

К этому идеалу мы идем, постоянно держим его в уме, сообразуем с ним все свои социально значимые действия. В то же время нам приходилось и приходится брать в расчет и конкретные исторические условия. Судите сами. Строительство нового общества проходило в острой, порой драматической борьбе с эксплуататорскими классами, что требовало жертв и лишений от самих трудящихся.

Разумеется, и сейчас сложности международной жизни вынуждают нас отвлекать немалые ресурсы на нужды, связанные с укреплением безопасности страны. Но о свертывании социальных программ не может быть и речи. Мы стали несравненно богаче, сильнее, располагаем большими возможностями для реализации программной цели коммунистов — постоянного улучшения жизни народа. Приведем некоторые цифры. За четверть века реальные доходы на душу населения увеличились в стране в 2,6 раза, общественные фонды потребления (за счет которых производятся выплаты и предоставляются льготы населению: пенсии, пособия и стипендии, бесплатные образование и медицинская помощь, путевки в санатории и др.) — в 5 с лишним раз. Построено 54 миллиона квартир, что позволило улучшить жилищные условия большинству семей. Осуществлен переход ко всеобщему среднему образованию. Вчетверо возросло число лиц, окончивших высшие учебные заведения.

Однако жизнь, как говорится, не стоит на месте, и правящая в стране Коммунистическая партия на своем XXVII съезде по-новому взглянула на дальнейшее развитие социальной сферы, в полном объеме оценила ее возрастающее значение. Вот Политический доклад ЦК КПСС съезду. Один из его разделов так и называется: «Неуклонно повышать благосостояние народа, последовательно утверждать социальную справедливость». Прежде всего мы хотим поднять народное благосостояние на качественно новую ступень. В предстоящем пятнадцатилетии объем ресурсов, направляемых на улучшение условий жизни, предполагается удвоить. Реальные доходы в расчете на душу населения — повысить в 1,6—1,8 раза. В нынешней пятилетке (1986—1990) повышение доходов охватит миллионы людей.

Справедливость социализма, как мы ее понимаем, проявляется не только в глубоких социальных преобразованиях. Не менее важно и то, что она органично входит в нашу будничную жизнь.

«Справедливо» или «несправедливо» — так оценивают советские люди любой человеческий поступок. И всякая несправедливость, где бы она ни допускалась — в сфере производства или в деле подбора и расстановки кадров, в осуществлении правосудия и т. д., вызывает естественный протест, активное противодействие.

Ну а что мы имеем в виду, когда говорим: человек поступает по справедливости? Все очень просто: значит, живет и работает он в согласии со своей совестью, с теми нормами и принципами, которые утвердились в социалистическом обществе. Первая его заповедь — честный и добросовестный труд на общее благо. Все ли ей у нас следуют? К сожалению, нет. Дает о себе знать стремление некоторых членов общества... работать меньше, но получать больше.

Суть социальной справедливости советского общественного строя выражена в основном принципе социализма: «От каждого — по способностям, каждому — по труду». В процессе реализации этого принципа большое значение придается совершенствованию распределительных отношений, усилению контроля за мерой труда и мерой потребления. Другими словами, система материальных стимулов должна обеспечивать строгую зависимость зарплаты человека от количества и качества его труда. Это, несомненно, отвечает природе социализма — общества, в котором справедливость означает прежде всего соразмерность трудового вклада и получаемых жизненных благ.

Справедливость социализма — не какие-то красивые слова, так сказать, «пропагандистский штамп». Это могучая движущая сила дальнейшего развития советского общества. Уверенность в том, что все делается по справедливости, воодушевляет людей, умножает их социальную активность. Партия, говорится в решениях минувшего съезда КПСС, будет строго следовать принципу социальной справедливости, настойчиво добиваться устранения всего, что мешает проведению его в жизнь.

**Владимир УСАНОВ.**
(АПН).

*23—29 ВЕРАСНЯ Ў БЕЛАРУСІ ПРАЙШЛІ ДНІ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ЭСТОНСКАЙ ССР*

# МЫ СТАЛІ ЯШЧЭ БОЛЬШ БЛІЗКІМІ






Здзецца, зусім нядаўна — летам — адпраўляліся ў Талін нашы артысты і пісьменнікі на Дні літаратуры і мастацтва Беларускай ССР. І вось ужо Мінск прымае дарагіх гасцей. Спецыяльны поезд даставіў у беларускую сталіцу больш за 800 пасланцоў братняй рэспублікі.

Па-святочнаму выглядаў у гэтыя восеньскія дні Мінск, яго галоўны праспект быў упрыгожаны флагамі і транспарантамі са словамі прывітання эстонскім гасцям. У нас розныя нацыянальныя мовы, але добра разумець адзін аднаго дапамагала руская — мова міжнацыянальных зносін народаў СССР.

Аб вялікай цікавасці да жыцця братняй рэспублікі сведчылі разнастайныя пытанні беларускіх прадстаўнікоў прэсы, радыё і тэлебачання да членаў афіцыйнай дэлегацыі Эстонскай ССР на прэс-канферэнцыі. А ў яе складзе, акрамя афіцыйных асоб, былі кіраўнікі творчых саюзаў рэспублікі, праслаўленыя артысты, вядомыя мастакі, героі працы.

На адкрыцці Дзён літаратуры і мастацтва Эстонскай ССР у Вялікім тэатры оперы і балета БССР адбыўся святочны канцэрт, у якім прынялі ўдзел дзесяткі лепшых эстонскіх мастацкіх калектываў, асобныя выканаўцы. Яго пралогам стаў верш з сімвалічнай назвай «Да сяброў у госці». У выкананні народных калектываў — фальклорнага ансамбля «Торупіл» і ансамбля «Лінутая» прагучала кампазіцыя на тэмы эстонскіх народных мелодый, харавое мастацтва прадставілі славуты Дзяржаўны акадэмічны мужчынскі хор ЭССР — адзіны ў краіне прафесіянальны мужчынскі хор, змешаны хор Эстонскага тэлебачання і радыё, камерны хор Дзяржфілармоніі ЭССР, хор хлопчыкаў Дзяржаўнага акадэмічнага хору Эстонскай ССР...

У песні — душа народа. І менавіта песня дапамагла слухачам зразумець і адчуць характар эстонца, якому спрадвеку не давалася нічога лёгка. «Зямля, шчодрая на камені, бурлівае мора, каварныя балоты загартавалі народны характар, асноўнымі рысамі якога сталі працавітасць, мэтанакіраванасць і стрыманасць», — гаварыў на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй Беларусі І. Тооме, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Эстонскай ССР.



Дзве вельмі цікавыя выстаўкі прывезлі ў Мінск эстонскія сябры. На першай з іх, што адкрылася ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, — 70 работ, якія прадстаўляюць найбольш характэрныя напрамкі нацыянальнага жывапісу 20—30-х гадоў. Другая — у Палацы мастацтва — паказвае творчыя дасягненні мастакоў розных стыляў і напрамкаў у Савецкай Эстоніі.

Дэлегацыя эстонскіх мастакоў пабывала таксама ў розных абласцях нашай рэспублікі, сустракалася з беларускімі народнымі майстрамі — ганчарамі, рэзчыкамі па дрэву.

У калейдаскопе падзей, што адбываліся ў час Дзён, даволі цяжка вылучыць што-небудзь адно найбольш важнае і значнае. Аб праблемах развіцця літаратуры, майстэрстве перакладу гаварылі на сустрэчы ў Доме літаратара эстонскія і беларускія пісьменнікі. Аматары балета змаглі ўбачыць салістку балета тэатра «Эстонія» заслужаную артыстку ЭССР Кайе Кырб у спектаклі мінскай трупы «Лебядзінае возера». Апошнія свае работы прывезлі ў Мінск эстонскія кінематаграфісты...

Пачаўшыся ў сталіцы рэспублікі, свята эстонскай культуры прыйшло і ў раённыя цэнтры, і ў самыя аддаленыя вёскі, дзе выступілі фальклорныя, харавыя і эстрадныя калектывы.

Усяго толькі сем дзён працягваліся ў Беларусі Дні літаратуры і мастацтва братняй Эстоніі, але колькі за гэты невялікі тэрмін адбылося сустрэч, знаёмстваў, адкрыццяў! «Мы няблага ведалі адзін аднаго і раней, — сказаў на развітанне кіраўнік дэлегацыі Эстонскай ССР сакратар ЦК КП Эстоніі Р. Рыстлаан, — але цяпер мы сталі яшчэ больш блізкімі духоўна. Вялікую праграму супрацоўніцтва намецілі на будучыню прадстаўнікі нашых творчых саюзаў, работнікі культуры абедзвюх рэспублік. Давайце будзем сустракацца часцей!»



**НА ЗДЫМКАХ: на выстаўцы ў мінскім Палацы мастацтва; выступае эстонская спявачка Анне ВЕСКІ; у час сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў БССР: (злева направа) першы сакратар СП Беларусі Н. ГІЛЕВІЧ, празаік і перакладчык Л. МЕТСААР, П. МАКАЛЬ і літаратурны крытык О. ЙЫГІ; мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага мужчынскага хору Эстонскай ССР, лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўных прэмій, народны артыст СССР Густаў ЭРНЕСАКС (справа) гутарыць з беларускім скульптарам, народным мастаком СССР Заірам АЗГУРАМ; з вялікім поспехам выступаў перад беларускімі гледачамі танцавальны ансамбль «Сыпрус».**





## «Я—З ВЁСКІ МАЙСТРОЎ!..»

І чым больш гусцее, становіцца настырным вецер, тым святлей на душы ў млынара. У лад яго думкам і павевам ветру-карміцеля нястомна махае рукамі-крыламі вятрак, здалёк адкрыты людскому погляду. З новым ураджаем і з новымі надзеямі, бы на свята, з'язджаюцца людзі ў госці да выбеленага маладою мукою млынара. Вось дзе прастора дасціпным жартам, прымаўкам, маляўнічая выстава адмыслова змайстраваным вазкам, вышываным кажушкам жанчын.

Такім з маленства памятае вятрак Аляксандр Мацукевіч, 67-гадовы жыхар Моталя. За сваё жыццё пабачыў іх нямала — казловых, вежавых, ветракоў-зрубаў, вялікіх і малых, але заўсёды розных вонкава, любоўна аздобленых народнымі майстрамі. Свой першы млын Аляксандр Зіноўевіч пабудаваў на радасць аднавяскоўцам паўстагоддзя назад, уся ваколіца была абавязана майстру духмяным караваем на стале.

Сёлета ж стары майстар атрымаў ад праўлення калгаса «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна пачэсны заказ — пабудаваць вятрак. Адкладваць справу не стаў. У памагатыя ўзяў Івана Бабрыковіча і братоў Міхаіла і Паўла Валынцоў, адмысловых цесляроў. Гуртам, па праекту, вынайдзенаму нашымі продкамі яшчэ ў адзінаццатым стагоддзі, прыняліся майстры ставіць сцены.

Млын стане дапаўненнем да экспазіцыі рэгіянальнага музея-заказніка народнага быту, будаўніцтва якога вядзецца ў вёсцы. Месцам стварэння музея Моталь выбраны не выпадкова. Цяжка знайсці тут хату, дзе б не стаялі кросны, зробленыя яшчэ дзедаўскімі рукамі, а гаспадары не займаліся б якім-небудзь відам народнага прыкладнога мастацтва. Больш за 250 жанчын працуюць тут ткачыхамі-надомніцамі Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Прыгажосцю іх пакрывалаў, ручнікоў, сурвэтак любаваліся наведвальнікі выставак у Маскве, Ленінградзе, Польшчы, ГДР, Югаславіі, Канадзе, ЗША, Бельгіі, Францыі, Турцыі, Алжыры. Ткуць іх майстрыхі старадаўнім метадам ручнога пераборнага ткацтва, упрыгожваючы па краях геаметрычным і раслінным арнаментам.

У запаветных куфрах старадаўняй работы зберагаюць гаспадыні жаночыя вясельныя ўборы, летняе адзенне мужчын. Зроблены яны, па сцвярджэнню спецыялістаў, у канцы мінулага — пачатку нашага стагоддзяў. На адным сантыметры льняной тканіны можна налічыць каля 20 ніцяў асновы, што дазваляе параўнаць танюткае мотальскае палатно з натуральным шоўкам. Прыгажосць ільну адцяняе ювелірна распрацаваны, сціплы па малюнку арнамент чырвонага, сіняга і чорнага колераў.

Экспазіцыя музея, адкрыццё якой намечана на наступны год, раскажа пра гісторыю ўзнікнення і сучасны стан вырабу кажухоў, куфраў, разьбы і роспісу па дрэву, салома- і лазапляцення і іншых — каля 30 відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якімі здаўна займаліся мотальскія і навакольныя майстры.

Усё загаворыць у музейнай экспазіцыі сваёй выразнай мовай, каб і праз дзесяткі гадоў тутэйшая моладзь магла ганарыцца: «Я — з вёскі майстроў!..»

**М. КАЗЛОВІЧ.**

## ЛЮБЫЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ




З дваццаці тысяч рэк, якімі багата наша Беларусь, сапраўдным дзівам прыроды з'яўляецца рака Дзіва. Жывая нітка вады бярэ пачатак з возера Урода, нанізвае на сябе, быццам пацеркі, яшчэ пяць азёр і ў апошнім, возеры Янова, знікае.

Блакітныя каралі зямлі! Такой бачыцца Дзіва з вышыні птушынага палёту... У сэрцы жыло неадступнае жаданне прайсціся яе берагамі ці праплыць ад самага вытоку на чаўне — адчуць асалоду незвычайнай сустрэчы. Дзіва ж!

І вось — Ушаччына, легендарны край, край азёр, лясоў і рэк. Падарожжа плануецца на лодцы, «капітанам» якой стане мясцовы жыхар Мікола Радзевіч.

...Зараз Дзіва зарасла, па ёй можна падняцца да вытоку толькі вясною, па вялікай вадзе. Сама рака нешырокая, не будзе і дзесяці метраў, звілістая, у нізкіх берагах. Трапляюць іншы раз глыбакаватыя вíркі-ямкі, але і тыя к лету амаль зацягваюцца чаротам, рагозам, хвашчом. Балоцістыя берагі ўкрыты травой-разаком, вербнікам, іншым кустоўем. Там, праўда, ёсць дзве гарушкі. На першай стаіць вёска Зямцы, амаль насупраць яе, толькі на процілеглым беразе, — Атокі. Хат па дванаццаць маюць. А Урода — і вярсты не будзе ад гэтых вёсачак... Само возера — у тваністых берагах, вады — здаецца, зусім нічога, а дна ніякай тычкаю не намацаеш. З Уроды выцякаюць дзве ракі: Дзіва і Пракса. Дзіва трымае шлях на ўсход, у возера Атолава, Пракса — на захад. Аднак лепш туды, на тую Уроду, і не тыкацца. Калі ўжо рабіць агледзіны Дзівы, то ад вёскі Кугані.

Рэчышча ледзь значылася правей сяла, за рэдкім прыбярэжным чаротам. Адшукалі яго мы хутка і паволі, каб не напароцца днішчам на якую патырчаку, пайшлі ўверх, супраць цячэння.

Роўна тахкаў матор. А Дзіва *хутка гнала свае воды* насустрач. На стрыжні доўгія і таўставатыя водарасці выцягваліся і ажно слаліся па вадзе. Пры берагах было не так. Не такія раслі там і водарасці. Ля самай кромкі вады ўставаў чарот, падымаўся хвошч. Тамсям на павароце ракі трапляўся куст лазавіння — абвіслы, распушаны, і трэба было яго абмінаць, каб не зачапіцца за каравае вецце. Падчас сінелі і чыстыя прагалы, і тады матор працаваў без натугі — не намотваў на лопасці вінта зялёны «шпагат» водарасцяў. Нечакана лодку як хто падкінуў. Мікола імгненна павярнуў рукаятку ўправа, скінуў газ і выключыў матор.

— Рызыкуем! Вінт аб дно чыркануў.

Назад ішлі на вёслах.

Вось па курсу пачалі акрэслівацца абрысы вострава. Праз хвілін колькі сярод роўнага поля вады ён узвышаўся даволі вялікай зялёнай шапкай. Вырашылі аб'ехаць востраў. Па тутэйшых мерках, ён быў даволі вялікі — гектараў на пятнаццаць. Нейкая незразумелая сіла цягнула паглядзець, які ён, што на ім. Выйшлі на бераг.

— Гэта востраў Булыжны, — сказаў Мікола, ідучы наперадзе. — А там вунь, — паказаў рукою на поўдзень, — насупраць вёскі Калушчына, ёсць востраў Ландышавы. Невялікі, усяго якія два гектары, а ландышаў на ім — хоць касою касі. Калі яны зацвітаюць,назе няма дзе ступіць. Суцэльны зялёны дыван у белыя крапіны. А з дрэў на астраўку толькі ліпа расце.

На востраве Булыжны ліпы не было. Не было і ландышаў. Затое шмат дубоў — разгалістых, прыземістых. Багатае разнатраўе. Іншы раз траплялiся кусты шыпшыны. Яны былі ў самым цвіценні... Кветкі гарэлі спакойным ружовым агнём. Падчас, амаль пры самым лазняку, успыхвала ...ым цветам каліна. Гронкі яе ...зеццяў буйныя, сакавітыя.

...Парыпваюць уключыны, паволі адплываюць берагі, за паваротамі ракі знікаюць то чарот, то кусты вербніку, то высокія, усе ў кветках, травы. Сонца стаіць амаль у зе... і смаліць нясцерпна.

Прайшл... ...чэ з кіламетр. І Дзіва пашырэла, бегла ўжо ў высакаватых берагах, уздоўж якіх стаяў гонкі чарот. Пакуль не чулі чарацянак, а тут — пачулі. Птушкі то там, то тут падавалі голас, і рабілася весялей.

А вось вока заўважыла суцэльную сцяну хвашчу. Цёмна-зялёнага колеру, у залацістых кольцах, ён падняўся ў рост чалавека і заняў даволі вялікую завадзь. Ускрай яе стаяў рэдкі рагоз, падняў свае вострыя шаблі — быццам ахоўваў Дзіву ад кагосьці нядобрага.

Нарэшце пайшлі берагам зарасніі ажыны, трошкі далей і вышэй — ляшчыны. Усё ажно буяла, радавалася цяплу і сонцу.

Неяк раптоўна з-за павароткі паказалася маладая дуброва. На фоне нізкага лазавіння яна выглядала надта прыгожа. Па левую руку, цераз балотца, камлямі трошкі пасвяціў бярэзнік і знік.

— Скора возера Бярозавае! — не прыглушаючы матора, гукнуў Мікола. — Яно кіламетраў пяць даўжынёю, праскочым хутка.

Рака прыкметна пашырэла, і самі не заўважылі, як вырваліся на прастору. Весялей запрацаваў рухавік. Свежы вецер прыемна студзіў твар. Над намі з'явілася некалькі чаек, яны пікіравалі амаль да самай вады, узнімаліся ўвысь і зноў кідаліся долу.

Адолелі і возера Бярозавае. А на выхадзе, пад мостам, дзе зноў цякла Дзіва, давялося трошкі затрымацца. Перакат! Але вылезлі з лодкі і правялі яе перад сабой. Далей ужо скарыстоўвалі толькі цячэнне ракі.

Спраўна плыла «казанка» між высокіх берагоў Дзівы. Мы адпачывалі, цешылі вока то невялічкім і чысцюткім плёсам, то нахіленай над самай вадою чаромхай, то дашчаным насцілам, дзе жанчыны мыюць бялізну, то чародкаю дзятвы, што стаяла на самым беражку і лавіла вудамі печкуроў. ...ці, як іх тут завуць, курмялёў ... хатамі, што з-за прысад пазіра... ...а раку блакітнымі вокнамі. Думалася пра дзяцей: шчаслівыя! Ля дому спасцігаюць тонкую навуку рыбалова. Успомнілася і мая першая рыбалка на далёкай, вёрст пятнаццаць ад роднай вёскі, рацэ Грыдзе. ...шоў туды, хлапчуком, амаль ... ...ня. Закінуў валасяную вуду, а... ...ўзяў і перашчыкнуў шчупачок. Так і вярнуўся дадому з пустой торбачкай, узрушаны, усхваляваны і ўжо навек прывязаны да падарожжаў, да вады...

**Яраслаў ПАРХУТА.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### СУП ГРЫБНЫ З ВУШКАМІ

**Зварыць грыбны булён.**

**Прыгатаваць фарш: грыбы дастаць з булёну, прапусціць праз мясарубку і перамяшаць з падсмажанай цыбуляй. 2 сталовыя лыжкі мукі спасеравацъ, развесці вадой да аднароднай кансістэнцыі і паступова ўліць у кіпячы грыбны булён. У прыгатаваны пюрэпадобны суп дабавіць соль і воцат па густу. З мукі, што засталася, замясіць крутое прэснае цеста, дабавіўшы яйка, і прыгатаваць вушкі з грыбным фаршам, злёгку адварыць, затым абсмажыць на алеі. Гатовыя вушкі пакласці ў талеркі з супам.**

**2,5 літра вады, 50 грамаў сушаных белых грыбоў, 1 цыбуліна, 1 яйка, 2 сталовыя лыжкі алею, 1,5 шклянкі мукі, 1-2 сталовыя лыжкі трохпрацэнтнага воцату, соль.**

### БАБКА З МОРКВЫ

**У нацёртую маркоўную масу дабавіць разведзеныя ў вадзе дрожджы, яйка, соль, муку, цукар, масла, перамяшаць і паставіць у цёплае месца для браджэння. Затым масу выкласці ў металічную форму, змазаную тлушчам, і паставіць у печ або духоўку на 20 мінут.**

**6 штук морквы, 2 сталовыя лыжкі мукі, 2 сталовыя лыжкі тлушчу, 1 яйка, 15 грамаў дражджэй, цукар, соль.**

### КАМЫ

**Абабраную бульбу зварыць у падсоленай вадзе, прапусціць праз мясарубку. Дробна парэзаныя кавалачкі свінога сала з цыбуляй падсмажыць на патэльні да залацістага колеру і перамяшаць з бульбай. Бульбяную масу падзяліць на невялікія круглыя шарыкі (камы), абсмажыць на змазанай тлушчам патэльні і запячы ў духоўцы.**

**12 бульбін, 100 грамаў сала, 2 цыбуліны, соль.**





**Шчодрая сёлетняя восень на лясныя дары. Падасінавікі і баравікі, лісічкі і падбярозавікі, грузды і ваўнянкі — ды хіба пералічыш, што чакае грыбніка ў лесе! Спадарожнічала ўдача і мінчаніну Мікалаю Гуранчыку. Ужо былі поўныя кошыкі, калі яму трапіўся рэдкі трафей — грыб-баран. Ён мае цудоўны смак і вялікія памеры. Важыць знойдзены экземпляр сем кілаграмаў!**

**НА ЗДЫМКУ: унучка М. ГУРАНЧЫКА Света з гіганцкім грыбам-баранам.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## ШЫШКІН У ПУШЧЫ

У Маскоўскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва захоўваецца даўні рукапіс Якава Мінчанкова «Успаміны аб перасоўніках», дзе ён апісвае некалькі эпізодаў з жыцця выдатнага рускага мастака-пейзажыста І. Шышкіна. Яго эцюды, напісаныя ў Белавежскай пушчы, экспанаваліся потым на выстаўцы, а зараз захоўваюцца ў музеях і прыватных зборах.

Іван Шышкін не быў прыхільнікам чынашанавання і ганарыўся незалежнасцю свайго становішча. Ён усяляк імкнуўся пазбягаць на выстаўках, што праводзілі мастакі-перасоўнікі, сустрэч з асобамі царскай сям'і. Аднак у 1886 годзе яму было загадана апрануць фрак і з'явіцца на сустрэчу з Аляксандрам III. У выставачнай зале мастакоў-перасоўнікаў цар станоўча адазваўся аб работах Шышкіна, параіў мастаку пабываць у Белавежскай пушчы і напісаць некалькі карцін-эцюдаў сапраўднага лесу, які ён не ўбачыць у наваколлі Пецярбурга, ні нават у цэнтральнай частцы Расіі.

Праз некаторы час пецярбургскія чыноўнікі арганізавалі паездку мастака ў Белавежскія лясы, дзе ён прабыў некалькі месяцаў.

Адміністрацыя пушчы апякала Шышкіна, як знатнага вяльможу. Іван Іванавіч нават скардзіўся, што нельга і кроку ступіць без надакучлівых паслуг.

Аднойчы, робячы замалёўкі сасновага бору, ён намаляваў на першым плане паўзасохлае дрэва. Убачыўшы такое, кіраўнік пушчы доўга ўпрошваў мастака зняць гэтую дэталь з карціны, бо палатно будзе дастаўлена ў Пецярбург, а там скажуць: дрэнны, маўляў, кіраўнік, калі давёў пушчу да такога стану, што дрэвы сохнуць.

Багацце прыроды Белавежскай пушчы да канца жыцця хвалявала творчае ўяўленне вялікага мастака-пейзажыста Расіі і знайшло сваё адлюстраванне ў наступных яго работах.

## ГАСЦІНАЯ Ў ВЁСЦЫ

Вялікім святам для жыхароў вёскі Касцені Слонімскага раёна стаў адзін з нядзельных дзён верасня. Яны адзначылі не толькі наваселле сельскай бібліятэкі, але і адкрыццё ў ёй літаратурна-музычнай гасцінай.

У святочна прыбранай зале сабралася шмат калгаснікаў, але ўсіх жадаючых гасціная не змагла ўмясціць. Таму сталы з самаварамі і пірагамі вынеслі проста на вуліцу. Асаблівую ўтульнасць стварылі букеты асенніх кветак на сталах, пакрытых ручнікамі.

Адбылася прэм'ера літаратурна-музычнай кампазіцыі «Захаваем мір на зямлі». Перад гасцямі выступілі ўдзельнікі калгаснага вакальна-інструментальнага ансамбля, чытальнікі дэкламавалі вершы.

## НАВІНКА «МЕЛОДИИ»

Усесаюзная фірма «Мелодия» выпусціла ў свет новыя пласцінкі, якія знаёмяць слухачоў з разнастайнай музычнай культурай Беларусі. Аматары харавой музыкі змогуць паслухаць запіс выступлення Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Беларускай ССР пад кіраўніцтвам Міхаіла Дрынеўскага. У праграме дыска-гіганта папулярныя беларускія народныя песні, творы кампазітараў Э. Ханка, І. Лучанка і іншых.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80; 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1553